# М Ю Д

1-га верасня моладзь і дзеці ўсяго свету будуць святкаваць свой чарговы **Мюд**—Міжнародны юнацкі дзень.

Рэволюцыйная моладзь буржуазных краін дружна і смела выйдзе ў гэты дзень на дэманстрацыі супроць вайны, голаду і фашызма. Гэтыя дэманстрацыі будуць разганяцца ўзброенымі да зубоў фашыстамі. Не мала загіне маладых рабочых у схватках з крывавымі фашыстамі. Ды нішто—ні смерць, ні турмы—не спыніць пролетарскай моладзі ў яе змаганні.

Мы свой **Мюд** будзем святкаваць бадзёра і весела, бо мы жывём у вольнай краіне, якой кіруе ленінская партыя на чале з любімым вялікім **Сталіным**. Але шчаслівыя дзеці совецкай краіны павінны заўсёды памятаць аб сваіх замежных братах і сёстрах. Вывучайце іхняе жыццё, пішыце ім аб сваёй вольнай радзіме, аб сваім шчаслівым жыцці ў вольнай краіне. Мацней сувязь з піонерамі замежных краін!

Няхай жыве наш пролетарскі Мюд!

## ПЕСНЯ СПАРТАКАЎЦАЎ

(*нямецкая пролетарская песня*)

**Выходзь на бой, на бой,**
**На грознае паўстанне!**
**Выходзь на бой, на бой**
**Магутнай грамадой!**
**Узняў высока Лібкнехт**
**Сцяг змагання**
**І акрапіў яго**
**Сваёю ён крывёй.**

**Не страшны нам, о не—**
**Крывавыя фашысты,**
**Не страшны нам, о не—**
**Бандытаў гэтых строй.**

**Хоць паў наш Лібкнехт,**
**Але мы ўсе чыста**
**Наперад выступім**
**На апошні бой.**

**Ідуць рады байцоў,**
**Як хвалі ў час прыбою.**
**Ідуць рады байцоў,**
**Закрылі гарызонт.**
**Хай заўтра згінем мы**
**Ахвярай бою,**
**Ды будзе жыць Ротфронт,**
**Будзе жыць Ротфронт!**

**ІСКРЫ ІЛЬІЧА**
ОРГАН ЦК ЛКСМБ І НАРКАМАСВЕТЫ
ВЫДАННЕ ЮНДЗЕТСЕКТАРА ДВБ

ШТОМЕСЯЧНЫ ЖУРНАЛ ДЛЯ ОКЦЯБРАТ І ВУЧНЯЎ МАЛОДШЫХ КЛАСАЎ
ЖНІВЕНЬ 1935 №8



# Залаты Зуб

*Апавяданне А. Якімовіча*
*Рысункі А. Шахрая*

— Людвісёк, а, Людвісёк, уставай, дзіцятка!—будзіла маці свайго старэйшага сына.

Людвіг расплюшчыў вочы, соладка пацягнуўся.

— Чаго, мам? Яшчэ-ж рана,—глянуў ён на стары невялічкі камодзік, дзе стаяў будзільнік.

— Эльзе зусім дрэнна,—жаласным голасам прагаварыла маці паціху.— Збегай, сынок, у пякарню...

Успамін пра пякарню ў момант раскатурхаў Людвіга. Ужо каторы дзень, як у хаце няма і крошкі хлеба. Крапіва ды шчаўе—уся іх яда. Ах, як бушуе ад гэтай яды ў жываце, як смокча пад лыжачкай! Толькі калі заснеш,—забудзеш пра голад. І ад бацькі ўжо з тыдзень няма ніякіх вестак: недзе ўсё ездзіць, бедны, па свету, шукае работы. Ды дзе знойдзеш яе, калі ўсюды такіх многа.

Людвіг скоранька ўсхапіўся з пасцелі, памыўся і адзеў рваны халацік: на двары хоць і вясна, але раніцы яшчэ халодныя.

— Мам... а за што-ж?—сумнымі вачыма глянуў ён у худы зморшчаны твар маці.

Замест адказу яна працягнула яму маленькую блішчастую залатую чашачку. Рука яе дрыжала, як у хворага. „Гэта-ж зуб... каронка маміна“, здагадаўся Людвіг, бяручы ў рукі залатую чашачку. Яму захацелася глянуць на матчын рот: як ён цяпер выглядае без гэтай чашачкі? Але Людвіг разумеў, як цяжка зараз маці і чамусці не асмеліўся гэтага зрабіць.

— Вазьмі, сынок, булку і, колькі дадуць—хлеба... Толькі-ж, глядзі, не згубі.

— Добра, мам,—матнуў галавой Людвіг, мацней сціснуў у кулак каронку ды вышаў за дзверы.

Залатая каронка з хворага пярэдняга зуба—гэта было ўсё матчына багацце, якое яна з пакутай прытрымлівала для самага горшага чорнага дня. І вось зараз прышоў гэты самы горшы чорны дзень. З учарашняга Эльза не ўзяла ў рот крапівы. Яна зусім аслабла і просіць хлеба, хоць якога...

* * *

Гарадок іхні яшчэ толькі што прачынаўся. Крамнікі і гандляры адкрывалі свае крамы, стукалі акяніцамі. З комінаў выплывалі першыя пасмы дымоў.

Людвігу патрэбна было прайсці аж у самы канец гарадка: там і змяшчалася пякарня, куды паслала яго маці. Ён ішоў і думаў толькі аб хлебе. І чым больш ён думаў, тым часцей і мацней бурчэла ў жываце, гусцей гнала сліну. Ён загадзя ўяўляў сабе як ён будзе старацца доўга жаваць сваю порцыю і запіваць чаем. Вось толькі чай не салодкі. Эх, каб гэта ды яшчэ цукар быў і кофе!.. А Эльза? Як зарадуецца яна! Можа ў яе і не сухоты, як кажа маці, а проста ад голаду гэта...

Пры павароце на другую вуліцу Людвіг раптам заўважыў на слупе нейкую паперку. Паперка на момант адагнала думкі аб хлебе. Людвіг быў вялікі ахвотнік чытаць такія паперкі-аб'явы. У гэтых аб'явах паведамлялася аб розных загадах, аб распрадажах мясцовай уладай маёмасці за падаткі; беспрацоўныя шукалі работы...

Людвіг падышоў да слупа і стаў чытаць.

*„РОТ ФРОНТ!“*

прачытаў ён першыя словы, надрукаваныя вялікімі літарамі.

Піонер падпольнага атрада Людвіг добра ведаў, што азначаюць гэтыя словы, і яшчэ з большай цікавасцю чытаў далей:

*„Фашысцкі ўрад Гітлера за 2 гады свайго крывавага панавання давёў мільёны рабочых і бяднейшых сялян да голаду і жабрацтва. Мы і нашы дзеці пухнем з голаду. Лепшыя рэволюцыйныя рабочыя гніюць у турмах... Дзе-ж выхад?*

*Адзіны выхад—рэволюцыя. Толькі пролетарская рэволюцыя выратуе нас ад ярма крывавых фашыстаў і галоднай смер...*

Апошнія літары Людвіг не дачытаў: хтосьці з усяе сілы стукнуў яму кулаком у патыліцу. Ён як стаяў, так і грымнуўся носам у слуп. У галаве зазвінела, закружылася і па ўсім целе расплылася нейкая асаблівая млявасць...

Калі Людвіг ачухаўся і падняў сваю цяжкую галаву з гразі, дык убачыў: перад ім стаяў мясцовы шупо*)...

---

*) Шупо—паліцэйскі.

— А, пракляты шчанюк! Я-ж цябе начытаю! Большэвік! Комуніст!— ґрымеў ён над людвігавым вухам. Шырокі аплыўшы ад жыру твар яго блішчаў, як вычышчаны медны самавар і быў пакрыўлен ад злосці.

Адной рукой шупо схапіў Людвіга за каўнер, а другой зрываў лістоўку.

— А цяпер, галубок, марш са мной!—тузануў ён хлопчыка, калі расправіўся з лістоўкай.

Ашаломлены ад удару і ад усёй гэтай падзеі, хлопчык спачатку ішоў спакойна. Ён думаў аб лістоўцы, аб тым, што правільна, усё правільна ў ёй напісана... Вось толькі пракляты гэты шупо не даў дачытаць да канца, бязжаласна парваў такую-то лістоўку. І невымоўная злосць ахапіла Людвіга на гэтага самаварнага шупо. Але на павароце да сваёй вуліцы Людвіг раптам затросся, рвануўся з дужых рук шупо і немым голасам закрычаў:

— Пусці!.. Эх, пусці! Зуб... там мой... у гразі астаўся... Пусці!!!

— Зуб?!—строга зароў шупо.—Я табе і ўсе іх павыбіваю!.. І ён яшчэ мацней сціснуў сваім кулачышчам тоненькі каўнер картовай людвігавай світкі. Світка затрашчала. Людвіг успомніў маці, хворую Эльзу, хлеб, і ногі перасталі яго слухацца...

Штурхаючы ў плечы, шупо сілай пацягнуў Людвіга ў паліцэйскі участак на расправу.





# ПЕЦЬКА-МАРАК

*Апавяданне А. Міронава*
*Рысункі А. Шахрая*

Вясна ачысціла Белае мора ад ільдзін, але непарушны прыпай (нераставўшы каля берагу лёд) быў яшчэ моцны. Ён быў падобны на прыстань. Прыпай заўсёды доўга трымаецца каля берагоў. На лёдзе ляжал рыбацкія лодкі—і малыя і вялікія. Калгаснікі спешна рамантавалі іх, каб нераст рыбы сустрэць падрыхтаванымі.

Пецька разам з сябрамі-піонерамі ўвесь дзень быў на беразе, памагаў калгаснікам. Раніцай у мора на разведку рыбы вышлі дзве лодкі, і цяпер калгаснікі з нецярплівасцю чакалі іх. Лодкі вярнуліся толькі позна ўвечары Яны былі да самых краёў нагружаны рыбай.

— Селядцы валам валяць!—апавядалі разведчыкі.

Работа на беразе кіпела да познай ночы. Рыбакі стараліся скончыць рамонт, каб раніцай выйсці на лоўлю.

Брыгада Клімцова, адрамантаваўшы сваю лодку, падцягнула яе бліжэй да берагу прыпая. Брыгаднікі падрыхтавалі снасць і невады, злажылі іх каля лодкі, а самі пайшлі дахаты адпачываць.

— Да світання ўстаць трэба,—сказаў брыгаднікам Клімцоў.—Загадзя выйдзем у мора, каб раніцай быць на месцы.



Пецька прачнуўся ад ціхай гаворкі. Маленькая карасінавая лямпа кідала цмянае святло на рэчы і сцены хат. У акно заглядвала чорная ноч. Бацька абуваўся, седзячы на лаўцы. Маці складала ў скураны мяшок харчы.

— Мора неспакойнае сёння,—сказала маці,—глядзі, асцерагайся.

— Не першы раз,—супакойваў яе Клімцоў. Закінуўшы за спіну мяшок з харчамі, ён развітаўся з жонкаю і вышаў з хаты. Пецька ўсхапіўся і пачаў хутка адзявацца.

— Ты куды?—здзівілася маці.

— Пайду правяду татку ў мора.

Хлопчык накінуў на плечы куртку і выбег услед за бацькам.



Пецька стаяў здалёк, каб не перашкаджаць рыбакам. Ён бачыў, як рыбакі падхапілі вялікую лодку і папхнулі яе ў мора. На беразе, акрамя Пецькі і чатырох калгаснікаў—брыгады Клімцова—нікога не было. Лодка саслізнула з ільдзіны на ваду і захісталася на хвалях. Двое брыгаднікаў ледзь утрымлівалі яе за доўгую вяроўку.

„Усядуцца",—падумаў Пецька. Ён хацеў падыйсці бліжэй да рыбакоў, але ў гэты час адчуў рэзкі штуршок пад нагамі, нібы хтосьці ўдарыў яго пад калені. Пецька паваліўся на лёд і апынуўся на краі чорнай шчыліны.

„Ільдзіну адарвала!"—зразумеў хлопчык. Ён усхапіўся, абярнуўся да рыбакоў і замёр ад жаху: рыбакі не заўважылі таго, што здарылася. Збянтэжаныя, яны стаялі на самым краю ільдзіны і глядзелі на мора, дзе па хвалях падскаквала лодка, што вырвалася з іх рук.

Пецька зразумеў увесь жах здарэння: вялікай хваляй адкінула ў мора лодку, і гэта-ж хваля адарвала ад прыпая ільдзіну. На ёй засталіся рыбакі і Пецька. Шчыліна паміж ільдзінаю і прыпаем хутка павялічвалася, пагра-



жаючы адрэзаць людзей ад берагу. Пецька гукнуў, але вецер аднёс яго голас у бок. Шумела мора. Рыбакі не чулі аб той небяспецы, пра якую крычаў хлопчык.

Шчыліна стала большаю за метр. У ёй страшна плёскалася чорная вада. Пецька, доўга не думаючы, пераскочыў праз яе на прыпай. Новая вялікая хваля адкінула ільдзіну далей. Вецер трохі сцішыўся і, калі хлопчык зноў крыкнуў, рыбакі пачулі яго. Яны кінуліся да берагу, але позна: не пераскочыць ім ужо шчыліну.

Ільдзіна, паволі хістаючыся, адплывала ў мора. На ўсходзе пасвятлела. Надыходзіў дзень. Мора і пануры бераг ахуталіся цмяным малочным святлом.



Віхрам насіліся думкі ў пецькавай галаве: што рабіць? Бегчы за дапамогаю нельга—пакуль прыдуць людзі, ільдзіну занясе далёка ў мора. На беразе, апрача Пецькі, нікога няма.

І доўга не думаючы, ён пабег па прыпаю ўздоўж ледзяной шчыліны, пільна ўглядаючыся наперад. Убачыўшы невялікую шлюпку (морская лодка), навісшую над вадою, Пецька падбег да яе. Ён злёгку штурхануў шлюпку і тая саслізгнула ў ваду. Хлопчык скокнуў у яе, сеў на лаўку, прымайстраваў вёслы. Вялікая хваля падхапіла шлюпку і адкінула яе ад берагу. Моцна сцяўшы зубы, Пецька налёг на вёслы. Шлюпка, нібы качка, гойдалася на хвалях. Вада пераліваласяпраз край і збіралася на дне шлюпкі. Пецька прамок і змёрз, зубы яго ляскаталі.

Ільдзіна паволі набліжалася. У хлопчыка страшэнна балелі рукі, сударга падгінала ногі. У роце перасохла.

— Дагнаць,—паўтараў Пецька,—дагнаць ільдзіну, выратаваць людзей! Ён не думаў пра тое, што на ільдзіне быў бацька. Не думаў аб хвалях, якія могуць затапіць шлюпку—і тады Пецьку—смерць. У яго была адна думка: „на ільдзіне людзі, іх трэба выратаваць“.

Калі да ільдзіны было зусім недалёка, Пецька пачуў прыглушаны ветрам бацькаў голас:

— Смялей, Пецяі Будзь сапраўдным мараком! Смялей!

— Ёсць!—слаба адгукнуўся хлопчык. У голасе яго дрыжэлі гордасць і стрыманыя слёзы.

Зусім недалёка ад ільдзіны вялікая хваля пераламала адно вясло. Ад штуршка Пецька ўпаў на дно шлюпкі ў ваду. Шлюпка нахілілася і амаль да палавіны напоўнілася вадою. Але Пецька не спалохаўся. Ён усхапіўся і, працуючы адным вяслом, паехаў далей. Змораны, знясілены, ён прыгнаў усё-ж такі шлюпку да ільдзіны.

— Малайчына,—сказаў расчулены Мацвей Сцяпанавіч. Ён схапіў сына на рукі, укруціў яго ў кажух. Пецька ўсхліпваў, тулячыся да шырокіх бацькавых грудзей.

Рыбакі хутка вычарпалі ваду з шлюпкі. Зламанае вясло замянілі цэлым, што асталося на ільдзіне ад паплыўшай у мора лодкі. Скоранька зложылі ў шлюпку невады, рыбацкія прылады, селі самі і паехалі да шэрага берагу, які віднеўся ў раннім змроку. А ўдзень другія рыбакі злавілі ў моры сплыўшую лодку і прыгналі яе назад.






С. МАРШАК.
Рыс. А. Волкава.

1

Хто там стукнуў за дзвярмі
З тоўстай сумкай на рамні,
З цыфрай 5 на меднай бляшцы,
У сіняй форменнае шапцы?
Гэта—ён,
Гэта—ён,
Ленінградскі паштальён!

У яго
Сягоння многа
Пісем
Ў сумцы на баку:
З Кутаіса,
З Таганрога,
З Магілёва
І Баку.



Ў 7 работа закіпела,
Ў 10 сумка пахудзела,
Да 12-ж гадзін
Стала тоненькай, як блін!

2

— Заказное з Магілёва
Для таварыша Жыткова.
— Заказное для Жыткова?
Выбачай, няма такога!
— Ну, а дзе-ж ён—адрасат?
— У Берлін панёсся, брат!

Жыткоў заграніцу
Ў паветры імчыцца—
Зямля зелянее ўнізу.
А ўслед за Жытковым
У вагоне паштовым
Пісьмо заказное вязуць.

Ў парадку пакеты,
Пасылкі, газеты,—
Ў дарозе разборка ідзе.
І два паштальёны
На лаўках вагона
Працуюць і спяць па чарзе.

Паштоўка—ў Дуброўку,
Пасылка—ў Пакроўку,
Газета—на станцыю Клін,
Пісьмо—ў Балагое,
А вось заказное—
Яно заграніцу, ў Берлін!

4

Ідзе берлінскі паштальён,
Апошняй поштай нагружон.
На світцы гузікі блішчаць,
Як электрычнасць зіхацяць.
І адпрасованы штаны —
Як быццам новыя яны!

За шумам слова не чуваць,
Машыны шынамі шуршаць
І круцяцца, як змеі,
Па Ліпавай алеі.

Вось тут. Спыніўся паштальён.
Швейцару—ветлівы паклон...
— Пісьмо для гер Жыткова,
Што з нумара другога!
Але і тут адказ быў зноў:
— У Лондан выехаў Жыткоў.

5

Пісьмо
Само
Не можа ісці,
А кінь яго ў скрынку—
Яно прабяжыць,



Праплыве,
Праляціць
Тысячы вёрст без упынку,




Не цяжка пісьму
Убачыць свет.
Яму
Не патрэбен білет:
За медныя грошы
Удоўж і ушыр
Усю зямлю аб'едзе
Такі пасажыр.

Ў дарозе яно
І не п'е, і не есць,
І толькі адно
Будзе вам гаварыць:
Экстрэнна. Англія. Лондан.
Вест. № 15, Бобкін-Стрыт.

6

Бяжыць, падкідваючы груз,
За аўтабусам аўтабус.





Швейцар зірнуў адразу ўніз
На імя і фамілію
І адказаў:—Жыткоў Барыс
Паехаў у Бразілію.

7

Параход
У паход
Пойдзе праз мінуту.
Чамаданамі народ
Загрузіў каюты.
Толькі ў гэтай
Адной
Цішыня і спакой.
Тут паедзе вось што:
Паштальён і пошта!

8

Пад пальмамі Бразіліі,
З вачэй прагнаўшы сон,
Шагае дон Базіліо,
Бразільскі паштальён.

У руцэ трымае дзіўнае,
Памятае пісьмо,
На ім іншакраіннае,
Паштовае кляймо.

І надпіс над фаміліяй
Аб тым, што адрасат
Выехаў з Бразіліі
Назад у Ленінград.

І ветрыкам калыша
Плакаты і афішы.
Крычыць кандуктар—містэр Рыд!
— Канец маршрута! Бобкін-Стрыт!

Па Бобкін-Стрыт, па Бобкін-Стрыт
Шагае быстра містэр Сміт,
На ім па форме кепка,
А сам худы, як шчэпка.
Ідзе ў пятнаццаты ён дом,
Стук-стук! —вісячым малатком
І кідае сурова:
— Для містэра Жыткова!



10

Мой сусед ўсхапіўся з ложка...
— Вось дык цуд, браток
Сярожка!
Паглядзі, пісьмо за мною
Абляцела свет стралою:
Цераз рэкі, цераз горы,
Па бязмежным сінім моры,
Ўслед за мной яго вязлі
Паязды і караблі.

Па гарах, марах салёных
Дабрыло пісьмо—зірні!
Чэсць і слава паштальёнам
Вечна пыльным і стамлёным,—
Слава чэсным паштальёнам
З тоўстай сумкай на рамні!

*Пераклад А. ЗІМІОНКІ.*



9

Хто там стукнуў за дзвярмі
З тоўстай сумкай на рамні,
З цыфрай 5 на меднай бляшцы,
У сіняй форменнае шапцы?
Гэта—ён,
Гэта—ён,
Ленінградскі паштальён!

Ён прынёс сюды нанова
Заказное для Жыткова.
— Для Жыткова? Гэй, Барыс,
Атрымай і распішыся!



# БАЙКІ Л. Н. ТАЛСТОГА

## ДВА ТАВАРЫШЫ



Ішлі лесам два таварышы, і выскачыў на іх мядзведзь. Адзін кінуўся бегчы, узлез на дрэва і схаваўся, а другі астаўся на дарозе. Рабіць яму не было чаго: ён упаў вобземлю і прытварыўся мёртвым.

Мядзведзь падышоў да яго і стаў нюхаць: ён і дыхаць перастаў.

Мядзведзь панюхаў яго твар, падумаў, што мёртвы, і адышоўся.

Калі мядзведзь пайшоў, той злез з дрэва і смяецца: „Ну, што, кажа, мядзведзь табе на вуха казаў?“ „А ён сказаў мне, што дрэнныя тыя людзі, якія ў небяспецы ад таварышаў уцякаюць“.

## ІЛГУН

Хлопчык пасвіў авец і, нібы ўбачыўшы воўка, стаў клікаць: „Памажыце, воўк! воўк!“ Сяляне прыбеглі і бачаць: няпраўда. Як зрабіў ён так і два і тры разы, здарылася—і сапраўды прыбег воўк. Хлопчык стаў крычаць: „Сюды, сюды, хутчэй—воўк!“ Сяляне падумалі, што зноў паранейшаму ілжэ—не паслухалі яго. Воўк бачыць, баяцца няма каго: на прасторы перадушыў усю чараду.



## САБАКА І ЯГО ЦЕНЬ



Сабака ішоў па кладачцы праз рэчку, а ў зубах нёс мяса. Убачыў ён сябе ў вадзе і падумаў, што там другі сабака мяса нясе,—ён выпусціў з зубоў сваё мяса і кінуўся адбіраць у другога: таго мяса зусім не было а сваё з вадою паплыло. І астаўся сабака без нічога.

## АЛЕНЬ

Алень падышоў да рэчкі напіцца, убачыў сябе ў вадзе і стаў цешыцца з сваіх рагоў, што яны вялікія і развілістыя, а на ногі паглядзеў і кажа: „толькі ногі мае дрэнныя і слабенькія". Раптам выскачыў леў і пагнаўся за аленем. Алень кінуўся наўцёкі па чыстым полі. Ён уцякаў, а як дабег да лесу, заблытаўся рагамі за сукі і леў схапіў яго. Як прышлося гінуць аленю, ён і кажа: „Вось які дурны я! пра каго думаў, што і слабенькія і дрэнныя, тыя ратавалі, а з каго цешыўся, ад тых прапаў".





# ПАЛЯВАННЕ НА ЛЕАПАРДА

*Апавяданне А. Петрова*
*Рысункі В. Тіхановіча*

Быў страшэнна спякотны дзень. Я ішоў на паляванне на леапарда. Праваднік казаў мне, што драпежнік жыве каля Мехавелі,—самай вялікай рэчкі на востраве Цэйлоне [1]).

З правага і левага боку блішчэлі невялікія азёры, напалавіну зарослыя чаратамі.

— Асцярожней, саіб [2]),—сказаў праваднік.

Ш-ш-ш...—пабег з берагу і боўтнуўся ў возера велізарны кракадзіл. І ў гэты-ж час з вады пачалі выскакваць дзесяткі срабрыстых рыб, напалоханых страшыдлам.

На сярэдзіне возера кракадзіл выставіў галаву з вады, нібы хацеў разгледзець двуногіх шкоднікаў, якія не далі яму грэцца на сонцы.

— Разбойнік на сушы баязлівы, сказаў праваднік,—але няхай саіб паспрабуе падыйсці да вады: кракадзіл раптоўна накінецца на яго.

Мне не хацелася „спрабаваць". Я выстраліў у кракадзіла, але не папаў.

Стрэл напужаў чараду фламінго. Вялікія птушкі з шумам узняліся ў паветра і накіраваліся да суседняга возера. Спіць фламінго з паднятай

1) Цэйлон знаходзіцца ў Індыйскім акіяне.
2) Так называюць туземцы белых людзей.

нагой. Ен падобны тады на ружовую падушку, адзетую на кiёк. За гэты „кiёк“ кракадзiлу зручна цягнуць злоўленага фламiнго ў ваду.

— Асцярожней, саiб,—зноў папярэдзiў праваднiк.

Каля сцежкi заварушылiся кольцы шасцiметравага пiтона (удава). Мы напэўна разбудзiлi яго. Змяя павольна выцягнулася i, паблiскваючы блiшчастаю скурай, папаўзла ў кусты.

— Пiтон рэдка кiдаецца на людзей,—сказаў праваднiк:—але калi саiб пажадае наступiць на яго хвост, то...

Не, не, я не хацеў чапаць пiтона! Няхай паўзе сабе на здароўе.

Праз поўгадзiны на маёй назе расплывалася крывавая пляма. Праклятыя п‘яўкi! Уся трава на Цэйлоне кiшыць гэтымi крывапiўцамi. Заснуць на траве—значыцца не прачнуцца, бо п‘яўкi высмакчуць усю кроў.

Праваднiк вёў мяне ўсё далей. Ён вёў так упэўнена, нiбы леапард умовiўся спаткацца з iм у вызначаным месцы.

Нарэшце мы выбралiся з лесу i селi адпачыць пад густым дрэвам. Перад намi была шырокая далiна Мехавелi.

Раптам недзе далёка, у бок рэчкi, зараўлi буйвалы.

Мы ўсхапiлiся на ногi i ўбачылi чапляў, якiя хмарамi ўзнялiся над чаротам.

— Што там здарылася?—спытаў я.

Праваднiк не адказаў. Ён узышоў на ўзгорак i пачаў углядацца ў туманную даль.

— Сюды iмчыцца стада дзiкiх буйвалаў!—крыкнуў ён праз хвiлiну.

Вось табе на! З гэтымi рагачамi жарты дрэнныя.

— На дрэва, саiб,—скамандваў праваднiк.

На шчасце дрэвы былi аплецены лiанамi [1]). Праваднiк дапамог мне ўзлезцi на дрэва i сам, узабраўшыся на метраў два ад зямлi, сеў побач са мною. Мы хiсталiся, як малпы, трымаючы ў руках стрэльбы.

У далiне адбывалася нешта незразумелае. Сярод кустоў i чароту ўзад i ўперад мiтусiлася стада буйвалаў. Чуваць быў трэск кустоў, тупат ног i лютае рыканне двух-трох дзесяткаў здаравенных жывёл. Буйвалы нiбы ашалелi, або задумалi гульню, уласцiвую свайму дзiкаму звычаю.

— Буйвалы гоняць леапарда,—прыгледзеўшыся, сказаў праваднiк.

Вось як! Гэта было цiкава. Я сеў больш зручна i ўважлiва глядзеў на далiну. Буйвалы павольна наблiжалiся. Я не бачыў леапарда, але здагадваўся, што драпежнiк, ратуючыся, вырабляў выкручастыя петлi. Яму было крута: да лесу далёка, а на далiне не расло нiводнага дрэва, дзе ён змог-бы адсядзецца ад ворагаў.

1) Лiаны—раслiны, якiя ўюцца па дрэвах. Растуць яны ў гарачых краiнах.



— Ці ўдасца леапарду ўцячы?—спытаў я праважніка.

— Не ведаю,—сказаў ён. І, падумаўшы, дадаў:—гэта стары, спрактыкаваны звер; ён, хутчэй за ўсё, зможа выблытацца з бяды.

Здалёк пачулася грознае рыканне, якое не мог заглушыць нават рэў буйвалаў.

— Глядзіце, саіб, глядзіце!—усклікнуў праваднік.

Сярод кустоў мільганула доўгае цела леапарда. Ён спрытна ўвільнуў ад бліжэйшага буйвала і з разбегу ўскочыў на гладкі, нібы адшліфаваны ствол бамбука. У гэты-ж момант яго акружыла раззлаванае стада.

Праваднік паківаў галавой.

— Дрэнную схованку выбраў леапард,—сказаў ён:—у бамбука няма моцных сукоў. Хоць і дужы леапард, але ён доўга не зможа вісець на кіпцюрах.

Звер, здавалася, і сам разумеў гэта. Учапіўшыся кіпцюрамі за ствол, ён пакручваў галаву ва ўсе бакі, шукаючы лепшай схованкі. Але навокал рос толькі малады і тонкі бамбук.

Трах! Адзін з буйвалаў так моцна стукнуў галавою ў бамбук, што ён зламаўся ў камлі.

Леапард скінуўся ўніз. Замільгалі буйвалавы хвасты, затрашчала галлё.

— Ну, здаецца, канец,—сказаў я.

Але-ж не! У адзін міг леапард апынуўся на спіне буйвала. Ён скруціўся ў камяк і адразу скокнуў на другога буйвала, потым—на трэцяга...

Але не ўтрымаўся, скінуўся, тады зноў усхапіўся, павярнуўся ў другі бок, зрабіў два-тры вельмі смелых скачкі і вырабіўся з стада.

— Малайчына!—з захапленнем усклікнуў праваднік.

Буйвалы яшчэ больш вар'яцелі. Яны як шалёныя замітусіліся сярод кустоў, збіваючы адзін аднаго з ног. Калі стада зноў пагналася за леапардам,—ён паспеў прабегчы палавіну дарогі да лесу.

Шлях перасякала невялікая рэчка. Дабегшы да яе, леапард скокнуў у ваду і хутка пераплыў на другі бераг. Тут ён атросся і доўгімі скачкамі памчаўся ў наш бок.

— Страляць, саіб?—спытаў праваднік, калі леапард падбег да нас шагоў на пяцьдзесят.

— Не трэба, адказаў я, паглядзім, чым усё гэта скончыцца.

Следам за леапардам каля рэчкі з'явіліся буйвалы. Яны з шумам рынуліся ў ваду, успеніўшы яе.

Першым выскачыў на бераг важак -велізарны звер, з лютаю мордаю. Ён глуха зарыкаў і кінуўся нацянькі праз кусты. За важаком памчалася ўсё стада.

Леапард прыбег у лес і гібкім рухам свайго цела ўскочыў на купчастае дрэва. Усё было скончана. Цяпер стомлены звер мог адпачыць, добра размясціўшыся на галіне.



Буйвалы акружылі дрэва Яны так раззлаваліся, што не на жарты пачалі біцца адзін з адным. Мы добра чулі стук іхніх рагоў і злоснае хрыпенне.

Я заглядзеўся на буйвалаў і не бачыў, куды падзеўся леапард. А ён ускарабкаўся гэтым часам на верхавіну дрэва і знік у зелені. Ці бачыў ён нас? Вядома, бачыў, але ў гэту хвіліну ён лічыў нас менш небяспечнымі, чым буйвалаў, што круціліся пад дрэвам.

Нарэшце буйвалы супакоіліся і адзін за адным пайшлі ў глыб лесу. Апошнім пайшоў важак: раззлаваны, ён доўга яшчэ бегаў навокал дрэва і распырсківаў сліну.

Як толькі сціх трэск кустоў, мы злезлі на зямлю і пачалі падкрадвацца да леапарда. Драпежнік заўважыў нашы намеры Мы не паспелі азірнуцца, як ён саскочыў з дрэва і кінуўся ў кусты. Праваднік выстраліў, але прамахнуўся.

— Ты яшчэ трапіш у мае рукі!—крыкнуў ён услед леапарду.

— Як ён апынуўся сярод буйвалаў?—спытаў я.

— У яго каля рэчкі логава,—адказаў праваднік,—Уночы леапард ходзіць па лесе і шукае сабе спажывы, а ўдзень спіць у зарасніках бамбука. Буйвалы выпадкова натрапілі на яго.

Мы зноў селі пад дрэвам і пачалі ласавацца дзікім паўлінам, якога я застрэліў учора каля рэчкі.



# ЖЫВЫ МЯРЦВЯК

*Апавяданне П. Рунца*

За нашым калгасам, на ўзгорку, высіцца купка кучаравых бяроз, а сярод іх стаіць струхлелая каплічка. Гэта—могілкі. Мая бабка Матруна дужа баіцца хадзіць каля іх увечары. Ёй здаецца, што мерцвякоў тады на могілках аж кішыць. І нам яна раіць не хадзіць, каб мерцвякі не схапілі.

Аднойчы мы чакалі бабку з мястэчка. Ужо добра сцямнела, а яе не было.

— Цяпер яна нізавошта не пойдзе дамоў, лепш у каго-небудзь пераначуе,—гаварыла нам маці.

Але раптам дзверы з грукатам расчыніліся і ў хату куляю ўляцела бабка. Не дабегшы да ложка, яна войкнула і павалілася ў беспрытомнасці на падлогу.

Маці кінулася адліваць яе вадою. Мы ўсе перапужаліся і не ведалі, што рабіць. А калі бабка ачнулася, дык зноў завойкала:

— Ой, не вытрываю...

— Што такое з вамі?

— Што здарылася?—запыталі мы ў адзін голас.

Нам усім хацелася даведацца як найхутчэй пра здарэнне з бабуляй.

Белая, як смерць, бабуля, калоцячыся ад перажытага пярэпалаху, расказала нам вось што.

Яна і суседка Домна варочаліся дахаты. Ішлі, гаварылі пра сёе-тое. А як дайшлі да могілак, дык бабка асмелілася і паклікала свайго нябожчыка мужа:

— Гэй, стары, досыць ляжаць тут, хадзем дадому!

— Пастой... зараз,—пачуўся ў адказ слабы мярцвецкі голас. Канешне гэтага даволі было, каб насмерць перапалохаць бабку.

Мяне гэтае здарэнне кранула за жывое. Я не вытрымліваю і тут-жа бягу да важатага.

А праз хвіліну мы ўтраіх (важаты, я і мой сябар Васіль) ідзем на могілкі.

У небе крывым сярпом павіс месячык. Светла ад яго на зямлі, як удзень.

Цішыня навокал. А вось і могілкі раскінуліся чорным квадратам. Мы пільна ўглядаемся ў іх і шагаем далей. Нам карціць даведацца, што-б магло напалохаць бабулю. У мерцвякоў мы ніяк паверыць не можам. Але-ж бабка не выдумала, ды і Домна-ж з ёю была...

Раптам бачым—нешта белае перад намі, каля каплічкі... Мы сцішылі шагі, спалохана углядаемся.

— Ды гэта-ж бярозавы пень!—засмяяўся важаты. Падышлі бліжэй: сапраўды гэта быў пень ад бярозы, якую ўвесну зламала бура. Нам становіцца смешна ад такога страху і мы яшчэ смялей ідзем наперад.

Ніхто з мерцвякоў пакуль што не паказваецца, нашы ногі смялей ступаюць па цеплаватай зямлі. Вось і маліннік, дзе мы збіралі ягады. Крышку ўніз па дарожцы і дзедава магіла.

Але вось каля аднэй магілы нешта заварушылася. Мы аглянуліся і застылі на месцы. З зямлі падымалася чалавечая постаць.

— Х-хто о гэт-та?—падняўшы галаву, пытае чалавек.

Пры святле месяца мы пазнаём нашага суседа, дзеда Ахрэма.

— Гэта мы!—крычыць Васіль і кідаецца да дзеда.

— А-а, ты, унучак, от мал-ладзец!—нараспеў кажа Ахрэм. Дзед Ахрэм хоча падыйсці да нас, але ногі не слухаюцца яго, ён хістаецца ў бакі, як маятнік. Дзед п'яны. Мы бярэм яго пад пахі.

— Як, дзядуля, сюды трапіў?—пытае ўзрадаваны Васіль.

— Я... я... з мястэчка ішоў... Трохі з сватам пацягнулі, вот мяне і завяло ліха-ведама куды. А чаго-ж вы гэта ў такую пару тут? Па мяне, мусіць?

Я расказваю пра здарэнне з маёй бабуляй. Дзед круціць галавою рагоча і кажа:

— Ага, адзываўся я. Як праз сон помню. Думаў дадому хто кліча. Ха-ха-ха! Спужалася! Дык зойдзем да бабулі тваёй, няхай паглядзіць на жывога мерцвяка.

Пасля гэтага здарэння бабка назаўсёды перастала баяцца могілак і верыць у мерцвякоў.

* * *

## ЯК СКЛАСЦІ ВАВЁРКУ І ВАЎКА

*Адказ на задачу з № 7*







# РЫБАК

Слаўны наш рыбак Рыгорка,
Каб прынадзіць акунькоў—
Яшчэ з вечара ў затоку
Ўсыпаў жменю чарвякоў.

І ледзь толькі сонца ўстала—
Вуды скоранька сабраў
Ды цішком з вядром на рэчку
З свайго лагера паджгаў.

Там закінуў хлопец вуды,
Прымасціўся пад кустом
Ён на самым беражочку
І... заснуў салодкім сном.



Спіць, храпе сабе пад сонцам,
Спіць і бачыць дзіўны сон:
Нібы поўнае вядзерца
Акунёў навудзіў ён.

Ды такія ўсе буйныя,—
Кожны з добрае кіло!
Раптам шусць яго вядзерца—
Проста ў рэчку паплыло...

Паляцела з акунямі,
Вось яны—лаві рукой!
Не сцярпеў рыбак заўзяты
Ды у воду з галавой



(Каб вярнуць назад здабычу)
З-пад куста ён паляцеў.
— Ух!—прачнуўся тут Рыгорка
У халоднае вадзе.

Напалохаўся хлапчына,
Шуму-крыку нарабіў
Так, аж лагер окцябрацкі
Без пары ён разбудзіў.

Пазбягаліся рэбяты.
— Ты чаго крычыш, рыбак?
— Гэта-ж,—кажа ім Рыгорка,—
Укусіў мяне шчупак...

ЦАНА 30 кап.

713

# ДЗІЎНЫЯ ЖЫВЁЛЫ ЯНКІ МАЛАНКІ

Янка Малавка чытаў кніжку пра розных жывёл. Але многіх жывёл ён ніколі не бачыў, а рысункаў у кніжцы не было. Тады ён сам стаў рысаваць. І ў яго атрымаліся вось якія дзіўныя жывёлы і іншыя стварэнні.



*Лятучая мыш.*



*Морскі леў.*



*Птушка-кравец.*



*Рыба-піла і рыба-молат.*



*Жук-далакоп.*



*Жук-тачыльшчык.*



*Дажджавы чарвяк.*

А што гэта за жывёлы і якія яны на самай справе—аб гэтым будзе расказана ў наступным нумары.

Рэдактар А. ЯКІМОВІЧ Афармленне Г. ІЗМАЙЛАВА Адрас рэдакцыі: МЕНСК, ДОМ ДРУКУ.
Друкарня імя Сталіна 10.000 экз. Заказ № 739. Уп. Галоўлітбела № Б—3445